*У лютым у сярэднім беларусы зарабілі 977,6 рубля. Гэта 453,6 долара ў эквіваленце.*
*У студзені сярэдні заробак склаў 982 рублі.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 24 (4379)**

26 сакавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГРОДНА – МІНСК

# Так святкавалася 101-я гадавіна Беларускай Народнай Рэспублікі












ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## «Каб не апынуцца без «Народнай Волі»…

Ведаем: у многіх з Вас, шаноўныя сябры, падпіска на «Народную Волю» была толькі на першы квартал. Не спазніцеся з пераафармленнем!

Калі Вы па нейкіх прычынах гэтага яшчэ не зрабілі, то ў Вас **засталіся лічаныя гадзіны** – каб атрымліваць газету і ў красавіку, Вам неабходна менавіта **да заканчэння сённяшняга рабочага дня** завітаць у любое бліжэйшае паштовае аддзяленне альбо ў спецыялізаваны пункт «Белсаюздруку» і прадоўжыць падпіску. Магчыма гэта таксама праз сістэму АРІП, запоўніўшы на сайце belpressa.by электронны бланк і аплаціўшы карткай. Нагадваем: індэкс «Народнай Волі» для індывідуальных падпісчыкаў – 63222, для прадпрыемстваў і арганізацый – 632222.

Дарэчы, у Вас яшчэ ёсць шанс парадаваць сваіх родзічаў, якія жывуць у правінцыяльных мястэчках і не маюць шырокага доступу да незалежных крыніц інфармацыі. Падпіска для іх на «Народную Волю» – прыемны падарунак. А знайсці, скажам, для бацькоў 21 рубель 60 капеек (на 3 месяцы) – не такая ўжо і праблема. Падпішыце іх на нашу газету!

«Народная Воля» стаяла і стаіць на цвёрдых пазіцыях.

**Мы служым не ўладзе.**
**Мы служым не партыям.**
**Мы служым не алігархам.**
**Мы служым не апазіцыі.**
**Мы служым свайму сумленню.**
**Мы служым Свабодзе Слова.**
**Мы служым дэмакратыі,**
**якая на першае месца ставіць**
**сілу закона, а не закон сілы.**
**Мы служым Чалавеку, які мае**
**не толькі абавязкі, але і правы.**
**Мы служым Вам, паважаныя чытачы!**
**Мы служым Беларусі!**




***Будзем разам, шаноўныя сябры, і ў другім квартале 2019 года!***

***Рэдакцыя.***

СІТУАЦЫЯ

## Не хапае грошай...

Арганізатары святкавання Дня Волі ў сталічным Кіеўскім скверы шукаюць фінансы, каб расплаціцца з гарадскімі службамі.

– Мы пакуль прыкладна падлічылі ўсе выдаткі на Дзень Волі, сума склала ад 12 да 13 тысяч рублёў, – распавёў «Народнай Волі» старшыня руху «За Свабоду» **Юрась ГУБАРЭВІЧ.** – Сюды ўваходзіць аплата работы міліцэйскіх службаў, падрыхтоўка сцэны, работа музыкальных гуртоў, лагістыка і іншае. Хаця канчатковы рахунак яшчэ не выстаўлены ні ад міліцыі, ні ад «Зелянбуду»…

**– Неабходную суму, наколькі я зразумеў, напярэдадні вы не сабралі?**

– На розных пляцоўках было сумарна сабрана каля 6 тысяч рублёў, таму амаль столькі ж давядзецца яшчэ знайсці. Зараз мы працягваем збор сродкаў праз розныя пляцоўкі і просім падтрымаць нас, калі гэта магчыма.

**– У гэтым годзе пачала дзейнічаць Пастанова Савета міністраў Беларусі №49, якая рэгламентуе аплату правядзення масавых мерапрыемстваў, арганізатарамі якіх з'яўляюцца прафсаюзы, палітычныя партыі і іншыя грамадскія аб'яднанні…**

– Згодна з дакументам, за мерапрыемства з колькасцю ўдзельнікаў ад 101 да 1000 чалавек трэба заплаціць 150 базавых велічынь; калі колькасць удзельнікаў перавышае тысячу чалавек – ужо 250 базавых велічынь. Міліцыя падлічыла, што мы перавысілі заяўленую колькасць удзельнікаў – 1000 чалавек, а таму, відаць, збіраюцца выставіць дадатковы рахунак. У такім выпадку, згодна з гэтай пастановай, вымушаны будзем заплаціць за паслугі па ахове грамадскага парадку, выдаткі, звязаныя з медыцынскім абслугоўваннем, прыбіраннем тэрыторыі пасля правядзення на ёй масавага мерапрыемства, 250 базавых велічынь – 6375 рублёў.

І гэта вельмі ганебнае палажэнне, бо тыя ж гарадскія службы ўтрымліваюцца за кошт падаткаплацельшчыкаў. І той жа падаткаплацельшчык мае права патрабаваць ад гэтых службаў бясплатнага выканання сваіх абавязкаў. Дык чаму трэба плаціць яшчэ раз?!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПЕРАСЛЕД

## Зміцер Дашкевіч – за кратамі

Актывіст і прадпрымальнік быў затрыманы на святкаванні Дня Волі 24 сакавіка.

Пасля затрымання родным Дашкевіча наогул не паведамлялі, дзе ён знаходзіцца, і толькі праз нейкі час удалося высветліць, што Зміцера адвезлі ў ізалятар часовага ўтрымання.

Учора блізкія актывіста цэлы дзень дзяжурылі ля суда Цэнтральнага раёна, але Зміцера Дашкевіча туды так і не прывезлі.

«*Гэта жахлівейшая новая практыка, калі арыштанта, які праходзіць па адміністрацыйнай справе, могуць асудзіць цягам трох сутак*, – паведаміла жонка затрыманага **Наста Дашкевіч.** – *25 сакавіка Зміцера ў суд не прывезлі. 26 сакавіка – працяг*».

Дарэчы, зараз, калі мужа кінулі за краты, Наста засталася адна з двума малымі дзецьмі, і да таго ж у бліжэйшы час у сям'і Дашкевічаў чакаецца папаўненне.

**Кастусь ЗАКРЭЎСКІ.**

ВЧЕРА

## Русому и Лавренкову грозит отставка?

Вчера Александр Лукашенко совершил рабочую поездку в Могилевскую область и остался недоволен развитием сельского хозяйства в регионе, который по показателям находится на последних местах.

«Целый вице-премьер, ведающий сельским хозяйством, курирует Могилевскую область (*речь о* ***Михаиле Русом.*** – **Ред.),** уполномоченный президента. Помощник президента (*Геннадий Лавренков.* – **Ред.)** зубы проел на сельском хозяйстве и Могилевской области. Губернатор самый продвинутый. И вы занимаете последнее место. Какой я из этого должен делать вывод?» – цитирует главу государства его пресс-служба.

«Неделя срока внести предложения, ибо пойдете сами сюда работать, – предупредил он главу Администрации президента Наталью Кочанову. – Я вас сюда посылал по кадрам – вы разбирались всю зиму, я вас предупреждал о ситуации здесь. Но ситуация не меняется. Мне эти обещания не нужны».

Александр Лукашенко напомнил, что ранее ответственным должностным лицам поручалось исправить положение дел в сельском хозяйстве Могилевской области. Однако видимых результатов нет. «Им было сказано, в том числе и Доманевскому (*губернатор Могилевской области Владимир Доманевский.* – **Ред.**): не будет исправлена ситуация в течение года – будем принимать меры. Поэтому неделя срока, и будем разбираться с вице-премьером и помощником, раз не смогли работать как следует», – сказал президент.

«Это нетерпимо, что вы постоянно телепаетесь. Есть же образцы хорошей работы (вот это хозяйство), почему нет тогда результата? У вас провал по всем направлениям, притом не на полпроцента-процент», – констатировал А.Лукашенко.

КРЫМІНАЛ

## Шукаюць вандалаў

Мінскім раённым аддзелам Следчага камітэта распачата крымінальная справа па факце наўмыснага пашкоджання матэрыяльных аб'ектаў у Курапатах.

«*У межах крымінальнай справы прызначаны шэраг экспертыз, вытворчасць якіх даручана экспертам УГКСЭ па Мінскай вобласці. Комплекс следчых і працэсуальных дзеянняў, накіраваных на ўстанаўленне фактычных абставін здарэння, працягваецца*», – гаворыцца ў паведамленні СК.

Крымінальная справа заведзена паводле ч.1 арт.344 Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Як вядома, 23 сакавіка актывісты выявілі, што невядомыя намалявалі фарбай зоркі Давіда і антысеміцкія надпісы на мемарыяльных аб'ектах, усталяваных на тэрыторыі месца пахавання ахвяр палітычных рэпрэсій ва ўрочышчы «Курапаты» і звярнуліся ў міліцыю.

АКТУАЛЬНО!

# За неуплату взносов в Фонд социальной защиты населения работодателей могут привлечь к уголовной ответственности

*На государственном уровне рассматривается ряд любопытных инициатив, которые касаются системы социального страхования. Одна из таких инициатив – более жестко подходить к работодателям, которые не уплачивают взносы в Фонд социальной защиты населения. Им может грозить уголовная ответственность.*

### Особо опасные долги

За прошлый год доходы бюджета Фонда социальной защиты населения, за счет которого выплачиваются пенсии и пособия, составили 13,9 млрд рублей, в том числе 12,7 млрд рублей в виде взносов поступило от юридических лиц (работодателей).

Но не все наниматели и индивидуальные предприниматели своевременно уплачивают взносы. По состоянию на начало 2019 года задолженность юридических лиц, осуществляющих деятельность, по взносам ФСЗН составила 24,7 млн рублей. Таковых юрлиц, кстати, больше тысячи, их список регулярно публикуется.

Куда выше задолженность перед ФСЗН у субъектов хозяйствования, которые находятся в стадии ликвидации и банкротства. Они задолжали на начало года 59,9 млн рублей, и за 2018-й их долги выросли более чем на 16 млн рублей.

Следует отметить, что индивидуальные предприниматели по состоянию на начало этого года задолжали 11,1 млн рублей. Также сумма отсроченных и рассроченных платежей сельхозорганизаций перед ФСЗН на начало нынешнего года составила 1,1 млн рублей.

Таким образом, совокупные долги всех плательщиков перед фондом на начало года достигли 96,8 млн рублей.

За несвоевременную уплату взносов в Фонд социальной защиты населения юрлицам и индивидуальным предпринимателям сейчас грозит административная ответственность.

Однако на официальном уровне, по сведениям БелаПАН, рассматривается ряд новых инициатив, касающихся системы соцстрахования, одна из которых – ужесточение наказания за неуплату взносов в ФСЗН.

В частности, предлагается в отношении неплательщиков страховых взносов предусмотреть уголовную ответственность. Авторы такой инициативы считают ее справедливой, ведь когда наниматели не уплачивают взносы в ФСЗН, работники теряют трудовой стаж, и, соответственно, нарушается конституционное право последних на получение пенсии в старости.

Напомним, для большинства работодателей размер страховых взносов в ФСЗН составляет 34% от фонда оплаты труда, в том числе 28% уплачивается на пенсионное страхование и 6% на социальное страхование. Кроме этого, 1% удерживается из заработной платы работника на пенсионное страхование.

### О будущей пенсии расскажет SMS-ка?

Эксперты считают, что ужесточение ответственности работодателей за неуплату взносов в Фонд социальной защиты населения – тема, требующая детальной проработки.

Директор Бизнес-союза предпринимателей и нанимателей имени Кунявского **Жанна Тарасевич** полагает, что если ответственность за такое нарушение ужесточать, то в законодательстве нужно максимально конкретизировать случаи, когда будет применяться самое суровое наказание.

«*Уголовная ответственность, если и должна применяться, то в тех случаях, когда речь идет о неуплате взносов в особо крупном размере. Должны быть четкие критерии. Если такие нарушения допускаются сознательно, это одна история, а когда предприятия не могут выплачивать взносы по объективным причинам – история совсем другая*», – считает Жанна Тарасевич.

Белорусские экономисты обращают внимание, что в бизнесе возникают разные обстоятельства, из-за которых работодатели могут перестать своевременно уплачивать взносы в Фонд социальной защиты населения.

«*Если руководство предприятия не платит взносы в ФСЗН, когда работает прибыльно, за это, наверное, нужно наказывать. Однако если неплатежи связаны с тем, что предприятие оказалось в сложном финансовом положении, то вряд ли уместно говорить о суровом наказании за это, а тем более об уголовной ответственности*», – говорит академический директор Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) **Катерина Борнукова**.

Следует отметить, что наряду с введением уголовной ответственности за неуплату взносов в Фонд социальной защиты населения на государственном уровне рассматриваются и другие предложения, касающиеся системы социального страхования.

Так, еще осенью прошлого года правительство высказалось за постепенное перераспределение размера взносов в ФСЗН между работодателем (34%) и работником (1%). Тема увеличения страховой нагрузки на работника до сих пор обсуждается в госорганах, но окончательное решение пока не принято.

Интересно и другое предложение. В Министерстве труда и соцзащиты существует идея о внедрении SMS-информирования физических лиц. Суть предложения заключается в том, чтобы регулярно (например, раз в полугодие) работнику приходило SMS-сообщение о том, на какую пенсию (с учетом перечисленных работодателем взносов в ФСЗН) сможет он рассчитывать после достижения пенсионного возраста.

Наверное, в случае реализации этой идеи люди станут чаще задумываться о будущей пенсии, и это может повысить интерес граждан к накопительным программам пенсионного страхования, которые в Беларуси пока не получили широкого распространения.

**Дмитрий ЗАЯЦ.**

*(Naviny.by.)*

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## «Пройдемте...»

На Октябрьской площади Минска вечером 25 марта задержали исполняющего обязанности председателя Объединенной гражданской партии **Николая Козлова** и сопредседателя оргкомитета по созданию партии «Белорусская христианская демократия» **Виталия Рымашевского.**

Рымашевский и Козлов планировали пройти от Октябрьской площади до улицы Володарского, где хотели возложить цветы к дому №9. В этом доме 25 марта 1918 года была принята Третья Уставная грамота, объявившая независимость БНР.

Задержание производили сотрудники милиции в штатском под руководством командира минского ОМОНа **Дмитрия Балабы** примерно через две минуты после того, как политики появились на площади. Силовики не представились, сказали: «Добрый день, пройдемте», – и увели обоих под руки в припаркованный рядом темно-синий микроавтобус.

Также на Октябрьской площади были задержаны еще как минимум четверо человек, которые имели при себе бело-красно-белую символику. В том числе активистку **Алену Толстую**, которая приковала себя цепью к столбу, и молодого человека, представившегося **Михаилом Савицким**.

Учора таксама ў цэнтры Мінска былі затрыманы музыканты, якія меркавалі сыграць некалькі песняў у гонар Дня Волі – **Лявон Вольскі, Ігар Варашкевіч, Зміцер Вайцюшкевіч** і **Павел Аракелян.**

Іх адвезлі ў аддзяленне міліцыі «для высвятлення асоб».

НЕДВИЖИМОСТЬ

## Вам нужна квартира?

В Минске по сравнению с аналогичным периодом прошлого года покупательская активность на вторичном рынке жилья снизилась более чем на 40%, отмечают аналитики агентства недвижимости «Твоя столица». Так, по данным агентства, стоимость однокомнатной квартиры стандартных потребительских качеств в феврале 2019 года составила 42 тысячи долларов, двухкомнатной – 55 тысяч, трехкомнатной – 65 тысяч. Готовых к проживанию – 49 тысяч, 65 тысяч и 77 тысяч соответственно.

Как следует из заключения аналитиков, сложившийся уровень цен – это предел того, что может позволить покупателям текущая экономическая ситуация.

ЧП

## Солдат-срочник сбежал из воинской части в Печах почти неделю назад

*Вчера Александра Невмержицкого искали шестой день.*

Командир воинской части 21 марта возбудил уголовное дело по факту самовольного оставления части в отношении данного военнослужащего, сообщает *euroradio.fm* со ссылкой на Минобороны.

Молодой человек родился в Лельчицком районе. Он приезжал домой в увольнение 28 февраля и 8 марта.

ЖАХ!

## Павесіўся на свой дзень нараджэння

У будаўніча-мантажным упраўленні №1 Мінскметрабуду ўчыніў самагубства 24-гадовы рабочы. Ён павесіўся ў будынку на вуліцы Ракаўскай, дзе знаходзіцца арганізацыя.

*«Павесіўся на свой дзень нараджэння,* – распавялі «Еўрарадыё» рабочыя УП «Мінскметрабуда». – *З-за дзяўчыны. Гэта шабашнік, не мінчанін. Сімпатычны, высокі хлопец. Сышоў з начной змены, схадзіў у душ, памыўся. Узяў кабель і на чацвёртым паверсе павесіўся».*

У сталіцу іншагародні хлопец прыехаў працаваць зваршчыкам.

У Следчым камітэце паведамілі, што выпадак меў месца, па яго факце праводзіцца праверка. Афіцыйная прадстаўніца СК **Юлія Ганчарова** расказала, што ў здарэнні не маецца прыкмет крымінальнага характару. Яно не звязана ні з работай, ні з сям'ёй. А падрабязнасці не агучваюцца па этычных прычынах.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Сага пра паравоз



Паравоз у Заброддзі. Нібы тут і стаяў...

Не дадзена прадбачыць нам, як слова наша адгукнецца. І раней я неаднойчы пераконваўся ў слушнасці гэтага выслоўя, а за час працы ў рэдакцыі «Народнай Волі» слова стала «адгукацца» нашмат часцей, прычым самым неспадзяваным чынам. Вось і «100 радкоў» пад назвай «Скралі... паравоз» («НВ» за 15 лютага) выклікалі неадназначную чытацкую рэакцыю.

Камусьці не спадабаўся празмерны катэгарызм аўтара, які неабачліва ўзяў на сябе ролю суддзі. Хтосьці, наадварот, успомніў, што ніхто па ўласнай прыхамаці не можа «замахвацца на самае святое» – прапісанае ў Канстытуцыі права на прыватную ўласнасць. А камусьці парадавала, што ўнікальны паравоз, які ўрастаў у зямлю на зарослым бадыллём дачным участку, урэшце трапіў у музей, дзе радуе вока шматлікім наведнікам.

Не пакінула без увагі «паравозную» тэму і камісія па этыцы, што дзейнічае пры Беларускай асацыяцыі журналістаў. Яе старшыня Сяргей Ваганаў тройчы наведаў рэдакцыю «Народнай Волі», дзе слушна паўшчуваў аўтара калонкі за размахванне шабляй («газета – не суд») і амаль пераканаў усіх прысутных на перамовах у тым, што паравоз не падступна скралі, а – самаахвярна ўратавалі.

Што і прымусіла аўтара той розгаласнай калонкі выправіцца ў вёску Заброддзе Вілейскага раёна, куды з-пад Смалявічаў без рэек і семафораў дакаціўся наш рарытэтны паравоз, пераадолеўшы каля паўтары сотні кіламетраў.

Каля брамы прысвечанага Першай сусветнай вайне музея (афіцыйная назва – Мясцовы дабрачынны культурна-гістарычны фонд «Крокі») нас сустракае адзін з ягоных заснавальнікаў – мастак Барыс Цітовіч (сузаснавальнікамі сталі жонка Валянціна і сын Даніла). Сустракае гасцінна, прыязнай усмешкай – нягледзячы на празмерна катэгарычныя (прызнаюся ў гэтым) ацэнкі, што прагучалі з газетных старонак. У Заброддзі Барыс Барысавіч жыве ўжо больш за сорак гадоў. Разам з сямейнікамі і валанцёрамі даглядае магілкі жаўнераў Першай сусветнай, стварыў цікавую музейную экспазіцыю, штогод на ягоны кліч збіраюцца людзі з усёй Беларусі і нават замежнікі на розныя ўшанавальныя мерапрыемствы. Мы ходзім паміж мемарыяльных аб'ектаў і слухаем, слухаем...

Раптам маю ўвагу прыцягвае зусім не вясковы краявід – з густога сасонніка выпаўзае санітарны цягнічок. Здаецца, вось-вось чмыхне і, даўшы гудок, віскатне буксамі на супынку.

Прыглядаюся – а паперадзе цягнічка акурат той самы паравоз. Вузкакалейны, 1955 года выпуску, адзіны такі ва ўсёй Беларусі. Зніклы ў канцы мінулага года з лецішча Генадзя Галубовіча пад Смалявічамі.

Цікаўлюся ў Барыса Цітовіча: хто ж цяпер з'яўляецца гаспадаром паравоза? Ну, калі ён апынуўся ў Заброддзі, то трэба ж неяк пацвярджаць свае правы.

Сузаснавальнік «Крокаў» спакойна тлумачыць: «Найперш я хачу супакоіць і спадара Галубовіча, і чытачоў «Народнай Волі»: паравоз у нас на самым надзейным захаванні, хоць і не ўзяты на баланс фонду. Я не прэтэндую, каб ён заставаўся менавіта тут, але, на маю думку, такі рарытэтны экзэмпляр тэхнікі павінен знаходзіцца ў адкрытым доступе, каб усе ахвочыя мелі магчымасць яго паглядзець. Мы, як бачыце, прывялі паравоз у прыстойны выгляд, зямлі з яго знялі, можа, тону, дапамаглі хлопцы-валанцёры. Пакуль ён тут, ніхто яго не парэжа на металалом, з яго не знікнуць нейкія дэталі. Наша мэта – каб паравоз быў народным здабыткам».

Мэта, што і казаць, высакародная. У Заброддзі за год бывае некалькі тысяч наведвальнікаў, прыязджаюць дзеці на экскурсіі. Прыгадаўшы свае школьныя гады, я ўспамінаю, як любілі мы на ўроках беларускай літаратуры праходзіць «Міколку-паравоза». Даводзіцца толькі пашкадаваць, што паравозы мы тады аглядалі толькі на карцінках. Вілейскім школьнікам пашанцавала больш – на ўласныя вочы яны бачаць такі незвычайны наглядны дапаможнік!

Але як усё ж быць з гаспадаром? Чаму «Крокі» пайшлі на такі рызыкоўны крок – вывезці паравоз без згоды гаспадара? Барыс Цітовіч ізноў скарае мяне белабародай усмешкай: «Са спадаром Галубовічам мы вялі перамовы з 2017 года (*заўважым, з ім меў сустрэчу і былы дырэктар фонда «Крокі» А.Янчуковіч.* – **Аўт.**). Некалькі разоў сустракаліся, урэшце летась ён выставіў канчатковы кошт – 20.000 долараў. Гэтая сума значыцца ў праекце дамовы, якая ёсць у мяне на руках. На гэтым нашы перамовы і скончыліся. Бо такіх грошай у нас не было».

Слухаючы сузаснавальніка «Крокаў», я спрабую ўсё ж зразумець, што падштурхнула яго да самавольнага вывазу паравоза з вёскі Хаценава пад Смалявічамі ў вёску Заброддзе пад Вілейкай. Пад'ёмны кран, вялікагрузны цягач – усё гэта таксама ж абышлося ў немалую суму. А галоўнае – як цяпер, пасля ўчыненага, дамаўляцца з уласнікам? З яго боку дзеянні «Крокаў» ацэньваюцца адназначна – як крадзеж. Аказваецца, у Барыса Цітовіча ёсць сумненні, што Галубовіч – законны ўласнік паравоза. Да таго ж у ягоным вывазе былі нібыта зацікаўлены мясцовыя ўлады...

Гэта новы паварот у справе. Цікаўлюся, на чым грунтуюцца сумненні адносна ўласнасці, і чую ў адказ: «На дакументах, якія нам паказваў Галубовіч. З імі адназначна не ўсё ў парадку. Ён яшчэ павінен даказаць, што менавіта ён – уласнік паравоза, а не фірма «Містраль», якая ў свой час набыла яго ў Беларускай чыгункі. Калі дакажа – мы вернем паравоз туды, дзе ўзялі, на лецішча ў Хаценава».

«Зразумейце мяне, – працягвае Барыс Цітовіч, – я мастак па адукацыі і бачыў шмат рарытэтных экзэмпляраў тэхнікі і архітэктурных помнікаў, якія зніклі літаральна на вачах. На гэта глядзець было балюча. І вось да нас дайшлі чуткі з Усяжскага сельскага выканкама, што паравоз знішчаецца – часам і людзьмі. І мы пайшлі ва-банк з адзінай мэтай – каб яго ўратаваць. Дарэчы, нам паабяцалі адпаведнае рашэнне выканкама, маўляў, будзе адпаведная папера. Але калі мы прыехалі, ніякіх папер нам не далі. Вядома ж, з нашага боку ёсць парушэнне заканадаўства, я гэта прызнаю».

Пачуўшы аб прызнанні парушэння, я нагадваю Б.Цітовічу, што Смалявіцкі РАУС адмовіўся распачаць крымінальную справу па факце прапажы, можна сказаць, крадзяжу паравоза. Але ў сваёй пастанове ад 2 лістапада 2018 года адзначыў, што «фонд «Крокі» гатовы вярнуць паравоз па першым патрабаванні Г.Галубовіча». Няўжо такое патрабаванне не дайшло да Заброддзя?

Сузаснавальнік «Крокаў» здзіўляецца міліцэйскай паперы і зноў падкрэслівае, што права ўласнасці мусіць пацвердзіць суд. Сумняваецца ён і ў намеры пенсіянера Галубовіча перадаць паравоз у дар дзіцячай чыгунцы: «Навошта ён чыгунцы? Ён не дзейны і ніколі ўжо не паедзе, можа выкарыстоўвацца толькі як помнік. А Галубовіч проста хоча зарабіць – фірма «Містраль» купіла за 50 долараў, а ён цяпер хоча прадаць за 20.000. Што ж, калі знойдзецца пакупнік, хай забіраюць. Але толькі калі будзе адпаведнае рашэнне суда».

З утульнага Заброддзя я скіроўваюся ў мястэчка Усяжа Смалявіцкага раёна, дзе мяне чакаюць рашуча настроены Генадзь Галубовіч і трохі разгублены старшыня праўлення фонду «Крокі» Андрэй Аралін, які непасрэдна і займаўся вывазам паравоза. Вырашаем разам зайсці да старшыні мясцовага сельвыканкама Аляксея Горбача. Таго на месцы не аказалася, але, пачуўшы ад сакратаркі па тэлефоне пра «паравозную справу», ён імгненна з'яўляецца ў кабінеце.

Пытаюся ў Аляксея Сяргеевіча: як гэта ён «санкцыянаваў» вываз унікальнага паравоза за межы Смалявіцкага раёна?

Старшыню Усяжскага сельвыканкама, відно, на мякіне не правядзеш. Ён з ходу адпрэчвае любое сваё дачыненне да прапажы паравоза: «Не маем мы права выдаваць такія санкцыі. Адзінае, пра што мы пісалі Галубовічу, – каб абкасіў свой участак, бо зарасло там усё бадыллём. Праўда, пісьмо наша вярнулася – адрасат яго не атрымаў. Мне летась званілі са Смалявіцкага райвыканкама – дапамажы вырашыць пытанне з паравозам. Я паехаў у Хаценава, пабачыў той цуд тэхнікі, але гаспадара ўчастка мы тады не знайшлі. Потым я зноў па справах быў у Хаценаве, гляджу – а паравоза ўжо няма. Няма і няма – значыць, справа вырашана... А потым да мяне прыязджае следчы – куды знік паравоз? А адкуль я ведаю? Праз пэўны час мне пазванілі з фонду «Крокі»: паравоз у нас. Пытаюся: а з уласнікам вы дамовіліся? Адказалі: дамовімся, вы не перажывайце... Наколькі мне вядома, «Крокі» займаюцца Першай сусветнай вайной – навошта ім паравоз 1955 года? Мне следчы паказваў паперу – фонд абавязваўся вярнуць паравоз па першым патрабаванні ўласніка. Не вярнуў? Ну, не ведаю...»

Прашу ў прысутнасці зацікаўленых асоб і мясцовай улады выказацца Андрэя Араліна, які, відно, адчувае сябе няёмка: «Дазволу на вываз паравоза нам ніхто не даваў – ні мясцовыя ўлады, ні Галубовіч. Мы проста зразумелі – пройдзе яшчэ трохі часу, і паравоз трапіць у металалом. Каляровыя металы і нержавейку з яго ўжо спілавалі. Паводле маіх звестак, паравоз маглі забраць на «Лінію Сталіна». Не купіць, а забраць, там у падобных выпадках не валаводзяцца. А Галубовіч хоча атрымаць занадта вялікія грошы. Каб хоць тысяч дзесяць рублёў, то, можа, мы неяк і сабралі б... Мы ледзьве выдралі паравоз пад'ёмным кранам, ён па самую кабіну ўрос у зямлю. Хачу падкрэсліць: я ратаваў, а не краў. Гэта наша памылка, што мы з самага пачатку не пайшлі законным шляхам, а цяпер нас вінавацяць у крадзяжы. Але асабіста я за артыкул у «Народнай Волі», дзе фігуруе і маё прозвішча, не крыўдую».

Прызнацца, і за сталом у кабінеце старшыні, і пасля на вуліцы я спадзяваўся прымірыць спрэчнікаў. Мне так хацелася, каб яны дамовіліся і паціснулі адзін аднаму рукі! На жаль, спадары Аралін і Галубовіч і блізка не падышлі да згоды, узаемныя абвінавачанні сыпаліся як з мяха. Знаўца старой тэхнікі з «Крокаў» іранічна хмыкнуў, пагартаўшы акты куплі-продажу паравоза, а хаценаўскі дачнік сурова і бескампрамісна патрабаваў вярнуць яго маёмасць на месца. На тым і раз'ехаліся ў розныя бакі.

Па дарозе ў сталіцу мы з Генадзем Галубовічам заязджаем у тое Хаценава, каб пабачыць «дэпо прыпіскі» ўжо знакамітага паравоза. Скажу адразу: пабачанае мяне ўразіла. І нават не цагляны двухпавярховік («ступень гатовасці яго 75 працэнтаў» – патлумачыў гаспадар), не плошча зямельнага надзелу («25 сотак – мая ўласнасць, а яшчэ 75 – доўгатэрміновая арэнда»), а – змураваная з камянёў-валуноў агароджа. Не лецішча, а Крэўскі замак!

Пенсіянер прадэманстраваў збіты замок на жалезных варотах, паказаў, дзе стаяў паравоз, дзе заязджаў кран. Мы прыкінулі, што 30-тонную аграмадзіну перанесці цераз такую грунтоўную агароджу было, відаць, няпроста. На вочы гаспадара нагортваюцца слёзы – будаваў дом, мураваў агароджу (усё ўласнымі рукамі), планаваў пасяліцца ў Хаценаве настала. Але раптоўная хвароба, што абярнулася інваліднасцю другой групы, пахавала ўсе планы. Цяпер нават абкасіць свой гектар – праблема.

У адрозненне ад кіраўнікоў «Крокаў», Г.Галубовіч не сумняваецца ў сваіх правах на паравоз. Ён толькі не перастае здзіўляцца самаўпэўненасці сваіх візаві ў «паравознай» спрэчцы і завочна працягвае палемізаваць з імі: «Ніхто да мяне з «Лініі Сталіна» не звяртаўся. Пасля публікацыі ў «Народнай Волі» звярнулася Беларуская чыгунка – яна гатова забраць паравоз, кампенсаваўшы мне ўсе выдаткі. Магчыма, я пагаджуся. Усе кропкі ў гэтай справе расставіць суд, я ўжо напісаў заяву ў пракуратуру. Але пакідаць свой паравоз у «Кроках», якія так са мной абышліся, я дакладна не маю намеру».

Не бяры чужога і не бойся нікога – выхоўвала мяне калісьці бабуля. «Крокі» ўзялі (не будзем казаць скралі) – яўна не сваё. Хоць ўзялі – не сабе. І прысвойваць не збіраюцца. Паравоз на музейнай пляцоўцы даступны для ўсеагульнага агляду (бясплатнага – гэта таксама неабходна падкрэсліць).

Такі маральны бок справы. Але ёсць яшчэ бок юрыдычны. Як выглядае, абодва спрэчнікі праклалі рэйкі для паравоза менавіта ў тым кірунку і гатовы ўскласці на вагі Феміды свае доказы. Што ж, іх справа, іх права.

Мы ж са свайго боку будзем сачыць, чым закончыцца смалявіцка-вілейская сага пра паравоз.

**Міхась СКОБЛА.**

СИТУАЦИЯ

# «Подошла очередь, а операцию не делают...»

*Читатели «Народной Воли» бьют тревогу: в Гродненской клинической больнице скорой медицинской помощи не выполняются операции по замене тазобедренных суставов с использованием импортных эндопротезов.*

*Житель Лиды Геннадий Тумилевич рассказал нам такую историю*:

– У мамы остеопороз правого тазобедренного сустава 3-й степени, еще в 2017 году ей рекомендовали заменить сустав. В Лидской центральной районной больнице в октябре 2017-го поставили на очередь. Предупредили: ждать надо год, поставят белорусский имплантат.

Маме сейчас 66 лет, хочется, чтобы качество жизни было нормальное, чтобы не мучилась от болей и могла ходить. Мы стали читать, узнавать, что еще предлагает наша медицина. В больнице как-то разговорились с женщиной, которой заменили тазобедренный сустав в Гродно: поставили не белорусский, а импортный протез немецкого производства. У этого протеза больше преимуществ, правда, в отличие от белорусского, за него нужно платить. И такие операции выполняют в Гродно, в Лиде врачи работают только с отечественными эндопротезами.

Я позвонил в Гродно, в Больницу скорой медицинской помощи, там мне эту информацию подтвердили, сказали, что за протез действительно придется заплатить 2,5 тысячи рублей, сама же операция бесплатная. Для нас такая сумма оказалась подъемной – тем более речь шла о здоровье. Я поехал в Гродненскую БСМП, написал заявление, и в ноябре 2018 года маму поставили на очередь на операцию по замене тазобедренного сустава. Сказали, что операцию сделают в конце февраля – начале марта 2019 года.

Однако в феврале позвонили из больницы и сообщили, что, к сожалению, очередь задерживается: мол, начало года, номенклатуру надо с Минском согласовать. Я толком ничего не понял из этого ответа, но мы решили: ждали год, еще пару недель подождем. Но прошла неделя, две, три, уже март заканчивается, а ясности никакой нет.

**– Что вам сейчас говорят?**

– Никакой конкретики. Может, они там что-то и согласовывают, но почему должны страдать пациенты? (*К слову, в Гродно в конце февраля задержали заведующего отделением Больницы скорой медицинской помощи, в сообщениях милиции утверждалось, что он за вознаграждения решал вопросы о приобретении больницей импортных эндопротезов.* – **Ред**.).

Маме недавно позвонили из Лидской ЦРБ – подошла ее очередь на белорусский протез. Она в замешательстве: ставить его или все же подождать импортный? В ее ситуации, говорят врачи, лучше импортный, он более надежный. Но у мамы с каждым днем все больше болит сустав, она уже почти не ходит...

**– А в другой клинике страны такую операцию выполнить нельзя?**

– Наверное, в Минске можно. Но там своя очередь и, как я узнавал, тоже немаленькая. Нам же нужно обращаться к главному внештатному травматологу Гродненской области, чтобы он выписал направление в Минск в связи с тем, что такие операции в Гродно не выполняются... Однако 25 марта в гродненской БСМП пообещали, что, как только приведут в порядок номенклатурную базу, сразу же начнут выполнять операции с использованием импортного эндопротеза. Вероятно, маму прооперируют через месяц. Значит, опять будем ждать...

ЗВОНОК В БОЛЬНИЦУ

## «Обновляются приказы...»

Как комментируют ситуацию об оказании помощи пациентам, нуждающимся в эндопротезировании тазобедренных суставов специалисты Гродненской области?

– *Помощь оказывается в штатном порядке*, – поясняет главный внештатный травматолог Гродненской области, доцент кафедры травматологии-ортопедии и ВПХ Гродненского медуниверситета **Виктор Аносов,** – *количество прооперированных пациентов соответствует среднемесячным показателям работы стационара. Стационар достаточно снабжен конструкциями. Кроме того, планируется расширить в области количество центров, выполняющих эндопротезирование в плановом порядке.*

*В настоящее время обновляются приказы по организации учета пациентов, нуждающихся в эндопротезировании, в связи с обновлением штата специалистов.*

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПРОБЛЕМА!

## Легче ли станет дышать жителям Солигорска?

На протяжении нескольких лет в различные инстанции потоком шли жалобы от жителей Солигорска, вызванные уплотнением городской застройки. Многоэтажные дома возводили на дворовых территориях, в жертву приносились детские и спортивные площадки, скверы, были случаи, когда даже школьные стадионы отрезали под площадку для возведения новых объектов. Город на глазах превращался в железобетонного монстра. Плотность населения в Солигорске почти в два раза превысила этот показатель в Минске.

Местные власти долгое время ссылались на то, что город с трех сторон окружен шахтными подработками, а в единственно свободном от них западном направлении строить нельзя, так как существует запрет на использование под строительство пахотных земель. В 2015 году удалось пробить разрешение на использование пахотных земель в западном направлении для строительства новых домов.

Но проекты детальной планировки города, разработанные в 2012 году, потребовалось корректировать.

И вот наконец-то! Как сообщил главный архитектор района **Валентин Стасюкевич** в рамках недавно прошедшего Единого дня информирования, Солигорск дальше уплотнять нельзя. Генеральный план Солигорска, согласно которому территориальное развитие города будет осуществляться в западном направлении и который запрещает дальнейшее уплотнение города, будет утвержден после прохождения госстройэкспертизы.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

МЕРКАВАННЕ

## А ці патрэбны нам такі праект?

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў* ***Ганна Канапацкая*** *ўчора, у дзень 101-й гадавіны абвяшчэння БНР, заявіла, што* «зноў востра паўстае пытанне захавання незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, ва ўмовах нечакана рэзкага фарсіравання інтэграцыйных працэсаў у рамках няскончанага 20-гадовага праекта Саюзнай дзяржавы, што прымушае задумацца, а ці патрэбны нам такі праект», які «за 20 гадоў так і застаўся мёртванароджаным дзіцем».

«Першапачаткова яго ў сваіх палітычных мэтах выкарыстаў прэзідэнт Беларусі, – *сцвярджае Канапацкая*. – Затым аб Саюзнай дзяржаве ўспаміналі хіба што 2 красавіка, і тое даволі вузкае кола людзей. Праект існаваў толькі на паперы і ў частцы створаных фармальных органаў. І вось сёння ў палітычных мэтах яго пачалі выкарыстоўваць расійскія палітыкі, прычым фактычна з пагрозамі эканамічнага ціску на нашу краіну.

Брацкім народам Беларусі і Расіі Саюзная дзяржава як палітычны праект не патрэбна. А для эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, у падтрымку якой на першым беларускім рэферэндуме выказалася больш за 83% грамадзян нашай краіны, і існуе ЕАЭС.

Магчыма, прыйшоў час паставіць кропку ў гісторыі з Саюзнай дзяржавай, каб назаўсёды спыніць у тым ліку шэраг скандалаў і ўзаемных папрокаў па пытаннях інтэграцыі паміж кіраўніцтвам Беларусі і Расіі, якія зноў пачалі публічна гучаць з канца мінулага года. Зрабіць гэта можна толькі праз рэферэндум, які могуць ініцыяваць або 450.000 беларусаў, або Нацыянальны сход, або прэзідэнт».

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

АФІЦЫЙНА

## Мінфін інфармацыі па верталёце не мае…

26 лютага выконваючы абавязкі старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Мікалай Казлоў** звярнуўся ў Міністэрства фінансаў Беларусі з просьбай даць інфармацыю наконт верталёта VIP-мадэль AW139 італьянскай фірмы AgustaWestland, які набыла Беларусь. Казлоў цікавіўся, колькі каштуе і за якія і чые сродкі быў куплены верталёт.




Гэтаму звароту лідара АГП папярэднічала інфармацыя, якая з'явілася ў некаторых інтэрнэт-СМІ і якая ўтрымлівала фотаздымак верталёта ў дзяржаўнай ліўрэі Беларусі ў міланскім аэрапорце Мальпенса. Яго зрабілі спотары – аматары назірання за самалётамі і выклалі ў інтэрнэт. А ўжо беларусы высветлілі, што VIP-мадэль AW139, зробленая італьянскай фірмай AgustaWestland, каштуе ад 12 мільёнаў долараў і што, напрыклад, у Расіі гэтай мадэллю карыстаецца прэм'ер-міністр **Дзмітрый Мядзведзеў**.

Днямі Мікалай Казлоў атрымаў адказ з Міністэрства фінансаў, які падпісаны намеснікам міністра **Юрыем Селіверставым,** і ўтрымлівае адзін сказ: *«Міністэрства фінансаў разгледзела ваш зварот ад 26.02.2019 №01/23-1 аб пакупцы Рэспублікай Беларусь верталёта VIP-мадэль AW139, які зроблены італьянскай фірмай AgustaWestland, і паведамляе, што інфармацыі па дадзеным пытанні не мае».*

– *Адказ здзівіў,* – кажа Мікалай Казлоў. – *Больш за тое, дае падставы меркаваць, што ўсе падобныя пакупкі ў нас трымаюцца ў сакрэце. Справа ў тым, што ў адным з беларускіх СМІ з'явілася інфармацыя, што верталёт ужо прыбыў у нацыянальны аэрапорт Мінск… І калі гэтая пакупка аплачана не з бюджэту, як выцякае з адказу Мінфіна, то з якой крыніцы? Магчыма, як ужо не раз здаралася ў Беларусі, – гэта падарунак алігарха. Але ў такім выпадку алігарх, напэўна, атрымлівае ад улады прэферэнцыі для пашырэння свайго бізнесу. І калі гэта так, то гэта і ёсць беларуская карумпіраваная эканоміка.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РЭГІЁН

## 148 рублёў за гарачую ваду ў месяц...

*У Гродне, паводле афіцыйнай інфармацыі, у спісах плацельшчыкаў за гарачую ваду па поўных тарыфах – 2938 чалавек.*

Амаль за 4 месяцы дзеяння дэкрэта №3 больш за сотню людзей звярнуліся ў адміністрацыі за логінамі і паролямі, каб даведацца, ці трапілі яны ў базу «дармаедаў». Нагадаем, што цяпер для людзей, не занятых у эканоміцы, гарачая вада каштуе ў пяць разоў даражэй, чым для афіцыйна працаўладкаваных грамадзян. Дарэчы, найбольшы кошт за гарачую ваду, які прыйшоў гродзенцу за люты, склаў 148 рублёў у кватэры, дзе прапісаны адзін чалавек.

Камісіі разгледзелі больш за 1900 заявак грамадзян на вызваленне ад аплаты камунальных паслуг па павышаных тарыфах. Прычым 100 заявак паступіла ад людзей, якія апынуліся ў складанай жыццёвай сітуацыі, і 1615 гродзенцаў звярнуліся з пацвярджэннямі сваёй занятасці.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЧУЛІ?

## Для тых, хто паедзе вучыцца ў Расію

У 2019 годзе ў Беларусі адкрыецца пункт здачы Адзінага дзяржаўнага экзамена (ЕГЭ) для беларускіх абітурыентаў, якія плануюць паступаць у расійскія ВНУ. Пра гэта ў інтэрв'ю тэлеканалу «Расія 24» заявіў пасол Расіі ў Беларусі **Міхаіл Бабіч**. Паводле слоў карэспандэнта, гэта адзін з крокаў, пра які дамовіліся прэзідэнты **Аляксандр Лукашэнка** і **Уладзімір Пуцін** у Сочы.

Канчатковае рашэнне будзе прынята ў красавіку на сумеснай калегіі, у якой возьмуць удзел прадстаўнікі Міністэрства асветы Расійскай Федэрацыі і Міністэрства адукацыі Беларусі, удакладнілі ў прэсслужбе беларускага ведамства. На ёй у дэталях вырашаць, калі і як будзе працаваць пункт для здачы ЕГЭ.

МЯЖА

## Плюс 900 грузавікоў…

Да пачатку правядзення ў Беларусі ІІ Еўрапейскіх гульняў плануецца поўнасцю завяршыць рэканструкцыю аднаго з найбуйнейшых пунктаў пропуску на беларуска-польскай мяжы – «Брузгі».

У цяперашні час, нагадваюць у Мытным камітэце, прапускная здольнасць пункта пропуску «Брузгі» складае 5 тысяч аўто. Пасля мадэрнізацыі яна павялічыцца яшчэ на 900 грузавых аўтамабіляў у суткі. Адно з асноўных змяненняў – павелічэнне колькасці палос для руху як на выезд з краіны, так і на ўезд, а ўстаноўка сучаснага абсталявання дазволіць значна скараціць час знаходжання аўтамабіляў у пункце пропуску і адпаведна павялічыць яго прапускную здольнасць па грузавым кірунку больш чым у два разы.

Дарэчы, дадзеная рэканструкцыя – справа не танная, аб'ём фінансавання складае больш за 4 млн долараў за кошт сродкаў пазыкі Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця.

ПАМЯЦЬ

## Памёр перакладчык Валерый Стралко



На 81-м годзе жыцця не стала перакладчыка Валерыя Стралко. Ён вядомы шматлікімі перакладамі беларускай класікі на ўкраінскую мову і наадварот. Сярод перакладзеных ім аўтараў – Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Тарас Шаўчэнка, Леся Украінка, Іван Франко. Дзякуючы В.Стралко ўкраінскі чытач змог пазнаёміцца са знакамітай беларускай паэмай «Тарас на Парнасе», а найбольш прыкметная яго праца – паэтычная анталогія «Трыяда славянскай паэзіі» (Кіеў, 2008). За сваю падзвіжніцкую дзейнасць па культурным збліжэнні народаў перакладчык быў уганараваны ўкраінскімі літаратурнымі прэміямі імя Івана Франко і Рыгора Скаварады.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

О НАБОЛЕВШЕМ

# Деньги должны быть возвращены народу!

## *И такая возможность есть*

1 марта 2019 года во время «Большого разговора с Президентом» на вопрос главного редактора газеты «Народная Воля» И.П.Середича по поводу возврата гражданам Беларуси денежных средств, размещенных в Сбербанке СССР и предоставленных в Государственный целевой беспроцентный заем 1990 года, А.Г.Лукашенко ответил: *«Честно говоря, не думал, что мне такой вопрос могут задать. Честно вам скажу, сегодня я вряд ли что-то могу сказать. Только повторить то, что понемногу, когда-то, что-то мы пытались выплачивать, выплачивали. Это, конечно, не знаю – много, мало, но это не все. Я знал, что эта проблема есть, но не думал, что она остро стоит».*

Президент публично дал поручение правительству посчитать сумму, чтобы сказать, в какие сроки можно вернуть гражданам деньги, и выразил надежду, что в ближайшее время эта сумма будет найдена и, возможно, этот вопрос будет затронут в апрельском Послании Президента к народу и парламенту.

Как председатель инициативной группы владельцев облигаций государственного целевого беспроцентного займа 1990 года я, конечно, рад, что к вопросу, волнующему многие тысячи людей, опять приковано внимание руководства страны.

Многие читатели «Народной Воли», наверное, уже и не помнят, что в 1990 году – 29 лет назад – по решениям трудовых коллективов, утвержденным местными Советами народных депутатов, передовикам производства предоставлялось право приобрести облигации государственного целевого беспроцентного займа на приобретение товаров длительного пользования (автомобили, мини-тракторы, холодильники и другие товары). Указанные в облигациях товары должны были выдаваться в течение 1993 года.

После распада Союза ССР правительство Республики Беларусь подписало в 1992 году (13 марта и 20 июля) два Соглашения между республиками бывшего СССР о разделении внутреннего долга, тем самым взяло на себя обязательства по погашению указанного займа.

Подписанные Соглашения не внесли каких-либо изменений в условия выпуска, продажи и погашения данных ценных бумаг, что предопределяет исполнение обязательств в соответствии с условиями займа, то есть путем выдачи товаров.

Однако правительство Республики Беларусь в 1992-м и 1993 годах выкупило у многих граждан облигации за бесценок под угрозой признания их утратившими силу.

По сведениям АСБ «Беларусбанк» (письмо от 13 февраля 2004 г. №15-002/2007) в Беларуси было распространено 78.235 облигаций на сумму, эквивалентную 253,8 миллиона долларов США. За выкупленные облигации их владельцам была выплачена сумма, эквивалентная 1.686.977 долларам, что составляет 0,66 процента от общей суммы, внесенной гражданами в 1990 году в целевой заем.

Совместное постановление правительства и Нацбанка от 19 июня 1998 г. №972/18 «О порядке начисления компенсации вкладчикам и владельцам ценных бумаг», изданное во исполнение Указа Президента от 21 апреля 1998 г. №229, не решило проблему исполнения обязательств по указанному займу, поскольку начисленная компенсация могла иметь даже отрицательную величину.

В связи с этим Конституционный суд высказал правительству свое мнение в письме от 8 февраля 1999 г. №05-05/60, в котором пояснил, что *«на владельцев облигаций не может быть распространен механизм начисления компенсации, применяемый по отношению к вкладчикам, поскольку: во-первых, на вклады начислялись проценты, защищавшие их хоть в какой-то степени от обесценения; во-вторых, вкладчики не были связаны какими-либо условиями и сроками закрытия своих счетов, тогда как владельцы облигаций могли сдать их только на определенных условиях; в-третьих, в отношении вкладчиков применялись дополнительные формы имущественной компенсации, например, начисление чеков «Имущество» и другие (за период с 1991-го по 1996 год было произведено 5 компенсационных выплат на сумму 2,65 трлн рублей – из письма Минфина от 26 апреля 1996 №13-43/491), тогда как владельцев облигаций указанные мероприятия не коснулись. В итоге равные подходы по защите прав граждан, несмотря на их декларирование, в принципе не были и не могут быть обеспечены. Владельцы облигаций справедливо обращают внимание на особый статус целевого займа, который, не предоставляя гражданину-кредитору права на получение какого-либо дохода, обеспечил последнему право на оплаченный товар. С учетом изложенного было бы целесообразно поручить соответствующим государственным органам рассмотреть вопрос и подготовить необходимые предложения. Также может иметь место и подготовка проекта специального закона об исполнении обязательств по государственному целевому беспроцентному займу 1990 года, как было сделано в Российской Федерации».*

В 1995 году были установлены годовые процентные ставки по вкладам: с 1 января – 400 процентов, с 17 марта – 310, с 21 апреля – 250, с 22 июня – 180 процентов, хотя в этот период курс доллара оставался неизменным.

Применяя единый подход к начислению компенсации по вкладам и ценным бумагам, правительство не учитывает, что вопросу принудительного выкупа облигаций были посвящены четыре постановления и два утвержденных Минфином и Сбербанком порядка выкупа облигаций, признанные прокуратурой незаконными ведомственными нормативными актами.

В то же время правительством не принимались меры по принудительному закрытию счетов вкладчиков в сбербанках, и, в отличие от целевого займа, никаких обязательств перед гражданами по вкладам со стороны правительства не было.

Инициативная группа считает, что вопрос компенсации вкладов должен решаться Национальным банком и ОАО «АСБ Беларусбанк» самостоятельно за счет своих внутренних резервов без привлечения средств республиканского бюджета, и обосновывает это следующим.

27 марта 1992 года правительство Беларуси приняло постановление №165, предусматривающее предоставление льготных кредитов для строительства жилья под 5 процентов годовых на срок до 40 лет без их индексации. Таким образом, полученный в 1992 году кредит в размере от 5 до 10 миллионов рублей через 5 лет можно было погасить одной месячной зарплатой, а уже в 1999 году – даже одной десятой частью ее.

В результате проверки прокуратурой соблюдения законности выдачи льготных кредитов выяснилось, что из-за бесконтрольности банков немало граждан незаконно получили льготные кредиты. Многие использовали их не по назначению. Можно сказать, мошенническим путем было получено более 2 миллиардов рублей.

Постановлением Верховного Совета Республики Беларусь от 24 февраля 1995 г. №3611–XII «Об индексации кредитов, полученных гражданами Республики Беларусь в условиях инфляции» Правительству и Нацбанку поручалось совместно разработать и утвердить до 15 апреля 1995 года порядок индексации кредитов с учетом инфляции и проиндексировать льготные кредиты, полученные гражданами с нарушением законодательства, в том числе использованные не по целевому назначению в 1992–1994 годах, с зачетом возвращаемых гражданами сумм индексации в республиканский бюджет. Во исполнение указанного постановления правительством и Нацбанком со значительным опозданием было разработано Положение о порядке индексации льготных кредитов, однако из-за существенных просчетов и ошибок, допущенных разработчиками Положения, оно не могло быть применено, даже после внесения в него некоторых изменений. В конечном итоге незаконно полученные кредиты, вложенные в недвижимость, были погашены инфляционными рублями, а потери от их предоставления компенсированы Сбербанку из бюджета. Поэтому у Сбербанка отпала заинтересованность судиться с заемщиками.

С января 1996 года прокуратурой было направлено в суды 205 исков о взыскании проиндексированных кредитов на сумму 9,6 миллиарда рублей, однако возмещено было всего лишь 12 процентов. На решения судов прокуратурой было вынесено 40 протестов.

Процесс обогащения определенной категории лиц, начатый в 1992 году, не был закончен. Казалось бы, банковская система, получив столь странный результат с льготными кредитами, должна была сделать соответствующие выводы и отказаться от практики перераспределения денежных средств, забирая их у большинства и отдавая меньшинству. Однако Сбербанк только в 1994–1995 годах умудрился раздать 11 миллионов 110 тысяч долларов США и 5 миллионов 50 тысяч немецких марок. Всего Сбербанку не было возвращено по состоянию на ноябрь 1998 года 31,5 миллиона долларов и 8,5 миллиона немецких марок. В связи с этим было возбуждено 75 уголовных дел.

Проблема возврата валютных кредитов оказалась значительно сложнее, чем льготных. В 1996–1997 годах бесконтрольно и беспрепятственно шел отток валюты за границу. Незаконное получение валютных кредитов осуществлялось через несуществующие фирмы, использовались подложные документы, стоимость закладываемого под залог имущества часто была намного ниже размера получаемого кредита. По оценкам специалистов, задолженность в 37 банках составляла 600 миллионов долларов США. Большинство кредитных сумм осело в карманах респектабельных злоумышленников, бесчестных людей, в том числе достаточно высокопоставленных лиц.

В октябре 1998 года была создана Межведомственная комиссия по возврату незаконно полученных валютных кредитов, возглавляемая Л.В.Глуховским.

В Министерстве внутренних дел было создано специальное подразделение по расследованию дел о хищениях и выманиванию кредитов, которое возглавил полковник милиции А.А.Лавренюк. Этим подразделением за время его существования было возбуждено 473 уголовных дела.

9 марта 1999 года на совещании Президент А.Г.Лукашенко выразил крайнее неудовлетворение ситуацией, сложившейся с возвратом кредитов. Он, в частности, сказал: *«Была поставлена задача не просто разобраться в данном вопросе, а вернуть стране те деньги, которые в свое время раздавались налево и направо не в меру щедрыми руководителями банковских структур. Подобная благотворительность слишком дорого обошлась нашему народу и государству. В начале 1990-х годов банковская сфера распоряжалась государственными, народными средствами как хотела. А выдавались кредиты прежде всего друзьям, знакомым, родственникам, собственным детям».* По мнению Президента, ответственность за это должны нести как те, кто брал, так и те, кто выдавал, а этот процесс следует расценивать как хищение в особо крупных размерах.

Из всего изложенного следует, что банковская система в 1990-х годах свободно распоряжалась народными средствами, в том числе хранящимися во вкладах, щедро раздавая их налево и направо. А вот теперь Нацбанк и ОАО «АСБ Беларусбанк» пусть самостоятельно решают, каким образом они будут индексировать и возвращать гражданам их сбережения без привлечения средств республиканского бюджета. Это будет справедливо.

Что касается целевого займа 1990 года, то правительство обязано в соответствии с условиями выпуска облигаций (Постановление Совмина СССР от 21 декабря 1989 г. №1119), соглашениями, подписанными 13 марта и 20 июля 1992 года, предписаниями статей 290 и 291 ГК РБ, издать постановление «Об исполнении обязательств по государственному целевому беспроцентному займу 1990 года» за счет средств Республиканского бюджета.

В Российской Федерации, союзном с нами государстве, был принят Закон «О государственных долговых товарных обязательствах» от 1 июня 1995 г. №86-ФЗ, которым правительству было поручено разработать Государственную программу погашения в 1995–1997 годах внутреннего государственного долга, исходя из принципа его полной компенсации, предусматривающую удобные для граждан условия погашения государственных долговых товарных обязательств, в том числе по их выбору: предоставление товаров, указанных в облигациях, выкуп облигаций по сложившимся на момент исполнения обязательств ценам на товары и другие виды компенсации.

По данным Министерства финансов Республики Беларусь, профицит республиканского бюджета за январь 2019 года сформирован в размере 0,8 миллиарда рублей (более 373,5 миллиона долларов США). Для погашения целевого займа 1990 года требуется чуть больше 252 миллионов долларов США.

По итогам прошлого года профицит республиканского бюджета составил 4,7 миллиарда рублей (2,3 миллиарда долларов США), увеличившись по сравнению с 2017 годом в 1,7 раза.

Отсюда следует, что сложившаяся в Республике Беларусь экономическая ситуация позволяет правительству принять решение по исполнению обязательств по целевому займу 1990 года и реально выполнить поручение Президента.



**Александр САМОДУРОВ,**
**председатель инициативной группы владельцев облигаций государственного целевого беспроцентного займа 1990 года.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
26 САКАВІКА 2019 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## На латарэі няма надзеі

Паводле інфармацыі Міністэрства фінансаў, апошнім часам у некалькі разоў зменшылася колькасць прададзеных латарэй. Адпаведна і прызы сталі значна больш сціплымі. Заснавальнікам прадпрыемства «Беларускія латарэі» з'яўляецца Упраўленне справамі прэзідэнта.

Найперш адзначыць варта, што
З дзіцячых дзён, яшчэ са школы,
Гуляў Мікола ў «Спортлато».
А грошы скуль былі ў Міколы?
Даход у хлопца быў такі:
Калі як след ішла вучоба,
Узнагароджвалі бацькі.
А ён жа не дурны, як чобат!
Нямала ён прайшоў дарог,
Гады ляцелі, быццам знічкі,
Аднак пазбавіцца не мог
Мікола ад сваёй прывычкі.
Ці многа грошай, ці няшмат,
Здаровы ён або хварэе,
Але з авансаў і з зарплат
Купляў Мікола латарэі.
Яшчэ ў нядаўнія гады
Праверыць шансы ўсе любілі,
І на кану былі тады
Кватэры і аўтамабілі.
Ну а Міколу ў той гульні
Чамусь не шанцавала змалку.
Не выйграваў бядак ані –
Ні прас, ні сокавыціскалку.
Але нязменна марыў ён,
Купіўшы зноўку латарэю:
«Нарэшце выйграю мільён
І, як буржуй, разбагацею!»
Казаў яму Пятро, сусед:
– Дурны ты, братка! Ад дзяржавы
І праз дзясяткі зім і лет
Не дачакаешся халявы!
Калі рублі ў Пятра былі,
Не латарэі ён, а піва
Купляў за гэтыя рублі
І пачуваў сябе шчасліва.
Парой Пятро на «півапой»,
Як надыходзіла субота,
Міколу запрашаў з сабой,
Ды той адказваў:
– Неахвота!
Мне ёсць куды спусціць рублі.
На выйгрыш не губляў надзеі.
…Прыйшоў чарговы дзень, калі
Праверыць трэба латарэі.
На вуліцы ў той позні час,
Бадай, чуваць ягоны кліч быў:
З таблічнымі на гэты раз
Сышліся ў латарэі лічбы!
Спярша здалося: гэта сон.
Таму працёр рукою вочы.
Ды выйшла так, што выйграў ён
Не легкавік, а… фен жаночы.
Вачыма лыпаў, як бязмен.
А ці не мог ён памыліцца?
Зірнуў яшчэ раз. Праўда, фен.
І паляцела ў кош табліца!
Бо выйгрыш гэткі – здзек нібы
Ці ўдар па галаве паленам.
Пятро, як і мужык любы,
На смех падыме з гэтым фенам.
Перавярнулася нутро,
І злосць Міколу ахапіла.
– Ды хай бы я, як той Пятро,
Свае рублі спускаў на піва!

* * *

Калі сябры ў піўбар пайшлі,
Пацёгся ён за імі следам.
Рашыў: каб выйграць тры рублі,
Лепш у «ачко» згуляць з суседам.

### Прыемна ўспомніць

У храм нарэшце маладзіца
Праз два гады пайшла на споведзь:
Грахоў паспела накапіцца
Так многа,
Што прыемна ўспомніць…

### Басанож і ў ботах

Мусіць, праўду кажуць нам усё ж,
Што хадзіць карысна басанож:
Як прачнуся ў ботах нечакана,
Галава баліць, нібыта рана…

### Словамі не выказаць

– Выказаць пачуцці немагчыма
Да цябе мне словамі, –
Жанчына
Мовіла з ухмылкаю зацятай. –
Толькі арматурай ці лапатай…

### Надзейная «бронекамізэлька»

Пяць разоў са свайго пісталета
У даішніка стрэліў бандыт.
Падалося: трагедыя гэта,
І даішнік адыдзе ў нябыт…
Ды калегі яго – не ў трывозе,
Не адчулі жалобу і жах:
Ён паўдня ўжо стаяў на дарозе,
І ўсе кулі застралі ў грашах…

### Вясковае вяселле

Ажно абрыдла маладым –
Вяселле пяты дзень гуло.
Перапіліся госці ў дым,
І стала біцца ўсё сяло.
Камусьці хтосьці даў пад дых,
Камусьці хтосьці выбіў зуб…
Не распазналі б маладых,
Каб не пасведчанне пра шлюб.

### Колькі лет, колькі зім!

Ён быў пакрыўджаны зусім,
Крычаў – паранены ўсё роўна:
– О, колькі лет і колькі зім!
А абяцалі год умоўна…

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Вандалам – не месца на нашай зямлі!

Некалькі дзён таму з'явілася інфармацыя, што вандалы ў чарговы раз апаганілі памяць тых, хто з далёкіх 1930-х гадоў ляжыць пад соснамі ў Курапатах. На помніках з'явіліся «зоркі Давіда» і антысеміцкія надпісы.




Пагадзіцеся, гэта не проста дзікунскі ўчынак, гэта выклік усяму дэмакратычнаму грамадству, уладам. Падобнае вар'яцтва паўтараецца даволі часта. Значыць, за вандалізмам у Курапатах стаяць не адзіночныя хуліганы, не нейкія там бязмозглыя падлеткі, якім такім чынам хочацца паказаць сваё «геройства», а, я ўпэўнены, за ўсёй гэтай пачварнасцю праглядаюцца пэўныя бальшавіцка-фашысцкія структуры. Магчыма, іх дзеянні накіроўваюцца з-за мяжы, з суседняй усходняй краіны. Вандалізм чыніцца не толькі дзеля таго, каб апраўдаць сталінскія рэпрэсіі, той крывавы рэжым, які загубіў мільёны чалавечых жыццяў, але і з той мэтай, каб убіць клін у сённяшняе грамадства, пасеяць нянавісць, варожасць прадстаўнікоў адной нацыі да прадстаўнікоў другой. У рэшце рэшт, каб дэстабілізаваць сітуацыю ў краіне і, выкарыстаўшы момант, зрабіць сваю чорную справу, накінуўшы на шыю беларускага народа імперскае ярмо.

Кіраўнікі праваахоўных органаў выхваляюцца тым, што іх падначаленыя выкрываюць тысячы розных злачынстваў. Дык скажыце, чаму яны не могуць спыніць вандалізм у Курапатах? Пры цяперашніх тэхнічных магчымасцях злавіць аднаго-двух ці групу хуліганствуючых малойчыкаў не ўяўляе вялікай складанасці. Тым больш калі не раз агучвалася, што мемарыяльнае месца ахоўваецца службамі правапарадку. Мяркую, што грамадскасці пускаецца пыл у вочы. Улады хуценька знайшлі б вандала, які намаляваў нешта на помніку «правадыру сусветнага пралетарыяту» на плошчы Незалежнасці альбо на бюсце «жалезнага Фелікса», што ў скверы насупраць КДБ, а тут, бачыце, ужо колькі гадоў ніхто і не думае спыняць адурманеных злачынцаў.

Курапаты – не проста памяць пра тых, хто быў генафондам нацыі і каго знішчыў бальшавіцка-фашысцкі рэжым. Курапаты – гэта гарачы боль, крывавая рана, якія і праз пяцьдзясят, і праз сто гадоў будуць нагадваць беларусам пра жудасныя рэпрэсіі, якія чыніліся ворагамі на нашай зямлі. Курапаты – наша вялікая сённяшняя адказнасць за тое, каб мы, амаль дзесяцімільённы народ, жылі ў свабоднай, вольнай, суверэннай краіне.

Спыніць жудасны вандалізм у Курапатах – гэтага патрабуе ад праваахоўных органаў уся свядомая Беларусь. І я персанальна звяртаюся да міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Валерыя Вакульчыка: задзейнічайце, калі ласка, усе сілы і як мага хутчэй адшукайце тых, хто апаганіў мемарыяльныя знакі ў святым месцы, пакажыце іх бандыцкія твары і пакарайце па ўсёй суровасці законаў.

**Генадзь ГАЎРЫЛКІН,**
**беларус.**

ДЫСКУСІЯ

# Рэцэпты ад Гігіна непрымальныя

Сёння лёс нашай краіны, як ніколі, хвалюе шырокае беларускае грамадства. Гэтай тэме прысвяціў свой артыкул «Слезть с иглы» Аляксандр Фядута. З ім уступіў у палеміку Вадзім Гігін, надрукаваўшы водгук пад назвай «Простых рецептов не бывает». Свае разважанні выклаў Сяргей Борыс у матэрыяле «А нужен ли нам Союз?».

Калі А.Фядута і С.Борыс асуджаюць дамову А.Лукашэнкі з Б.Ельцыным аб так званай інтэграцыі і саюзнай дзяржаве і бачаць у ёй рэальную пагрозу незалежнасці Беларусі, то В.Гігін той даўнейшы дагавор ухваляе, лічыць яго мэтазгодным. Больш за тое, ён намагаецца давесці, што такая дамова з'яўляецца лагічным працягам шматвекавога імкнення ўсходнеславянскіх народаў да яднання. Першымі збіральнікамі славянскіх земляў, дакладней земляў старажытнай Русі, паводле Гігіна, былі – хто б вы думалі? – Аляксандр Неўскі і першы князь Масковіі Даніла. І як таму А.Неўскаму ўдавалася адначасова збіраць землі і даніну Залатой ардзе? В.Гігін нават даводзіць, што нібыта і канцлер ВКЛ Леў Сапега меў намер дапамагаць маскоўскім баярам збіраць славянскія землі. А пазней і дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння быццам таксама толькі і думалі, што пра аб'яднанне з Расіяй. З дзіўных і загадкавых пазіцый трактуе гісторыю В.Гігін.

На самай справе збіранне тых зямель было даволі трагічным. Рускі гісторык Ключэўскі падлічыў, што за сваю амаль стогадовую гісторыю (1492–1582) на вайну Расіі з ВКЛ прыпадае аж 40 гадоў. Ужо адсюль можна меркаваць аб стаўленні нашых продкаў да яднання з заваёўнікамі.

Павучальным для нас застаецца «воссоединение» з Расіяй у 1792–1795 гадах. З указа Кацярыны II наглядна бачна, як імперыя ставілася да «воссоединенного» народа: «*Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ ее – белорусами, чем на века привяжем ее к России. Замирить Литву* (г.зн. ВКЛ, Беларусь. – **Аўт.**) *военной силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя*».

А В.Гігін суцяшае беларусаў, што мы ў адзінай Саюзнай дзяржаве з Расіяй будзем мець «*равноправие политическое и экономическое сотрудничество*», атрымаем «*и сохраним свободу внешнеполитического маневра*». Усё гэта, на мой погляд, марныя ілюзіі.

Нельга не пагадзіцца з А.Фядутам і С.Борысам, якія прапануюць як мага хутчэй скасаваць дамову з Расіяй аб утварэнні Саюзнай дзяржавы.

Беларусі неабходна паслядоўна прытрымлівацца нейтралітэту, наладжваючы ўзаемавыгадныя і раўнапраўныя адносіны з усімі краінамі. Само геаграфічнае становішча Беларусі спрыяе гэтаму.

А пачынаць трэба з выбудовы раўнапраўных, узаемавыгадных і дружалюбных адносін з нашымі суседзямі і найперш з Расіяй, як гэта зрабіла ў свой час Фінляндыя.

**Іван ЗДАНОВІЧ.**
*г.Пружаны.*

МНЕНИЕ

# Вернуться к поставленной цели – созданию нейтрального государства

Через четверть столетия после обретения независимости перед Беларусью вновь встал вопрос: куда и с кем идти? Это, я считаю, случилось вследствие отступления от курса, закрепленного в Основном законе Республики Беларусь от 1994 года.

Статья 1 Конституции Республики Беларусь гласит: Республика Беларусь – УНИТАРНОЕ демократическое социальное государство.

В статье 18 сказано: Республика Беларусь ставит целью сделать свою территорию безъядерной зоной, а государство – НЕЙТРАЛЬНЫМ.

Страна, находящаяся в центре Европы, по сути должна быть равноудаленной по отношению к своим соседям. А как у нас?

Провозгласив многовекторность своей политики, Беларусь тем не менее объявляет своим стратегическим партнером Российскую Федерацию, пытаясь построить с ней Союзное государство. Но необходимо напомнить, что между РФ и Японией до настоящего времени нет мирного договора из-за спора о принадлежности Южно-Курильских островов. Последние были захвачены Советской Армией в 1945 году после объявления Японией своей капитуляции. В последние годы подверглись агрессии со стороны России Грузия и Украина с потерей части своих территорий. Возникает вопрос: нужен ли Беларуси такой стратегический союзник?

Историк В.Гигин, приверженец тесной интеграции и Союзного государства, приводит в «Народной Воле» за 1 марта с.г. исторический эпизод женитьбы Александра Невского на полоцкой княжне, опуская при этом многовековую агрессию Московского государства против ВКЛ, закончившуюся присоединением части территории княжества к Российской империи. Он не упоминает, что после распада Российской империи в 1917 году молодое государство (БНР), возникшее на территории так называемого Северо-Западного края, было задушено руками, протянутыми с Востока.

Руководство нашей страны при строительстве Союзного государства все еще продолжает надеяться на равные условия с РФ. Однако на протяжении всего этого периода постоянно сохраняется давление на РБ с российской стороны («молочные», «сахарные» и другие войны). Как видим, равных условий не было, нет и быть не может с таким союзником. Пора отказаться от совковых штампов и мифов, «белорус – это тот же русский, только со знаком качества», «старший брат», «славянское братство», «дешевые энергоресурсы»…

Доцент В.Гигин в сложившейся ситуации предлагает вновь определиться (а чем занимались 25 лет белорусские власти?) на основе равноправного экономического и политического сотрудничества, доступа к дешевым энергоресурсам, сохраняя свободу внешнеполитического маневра. Однако это уже пройденный этап, следуя которому Беларусь может подойти к точке невозврата. Надо признать, что изначальный мотив создания Союзного государства (призрак власти) давно канул в Лету. А поэтому следует вернуться к осуществлению цели, поставленной в Основном законе, – созданию нейтрального государства. Нейтралитет – это не изоляция, а взаимовыгодные торгово-экономические и культурные связи со всеми потенциальными партнерами. В таком случае вся политика нейтрального государства будет подчинена интересам своего народа, и идея нейтралитета может стать национальной идеей Республики Беларусь. Положительным и достаточно убедительным примером нейтралитета для нас служит Финляндия, освободившаяся от имперского влияния в 1918 году и защитившая себя от агрессора в 1940 году. Первоочередными шагами в достижении поставленной цели (нейтралитет государства) необходимо считать прекращение бесплодного строительства союза Беларуси и РФ, выход из военных соглашений, ликвидацию на территории РБ российских военных баз.

Нейтралитет Республики Беларусь должен быть закреплен юридическими международными нормами в ООН. Восстановление границ по всему периметру территории РБ позволит поставить заслон нарастающему наркотрафику из РФ.

**Григорий Иванович ЗАКРЕВСКИЙ,**
**дитя войны, ветеран труда.**
*Минск.*

НУ И НУ!

# Ай да рыбка! Золотая…

Здравствуй, «Народная Воля»!

Решила написать о страшно высоких ценах в наших магазинах. Мне 70 лет, заболели у меня суставы. Врачи посоветовали для поддержания здоровья употреблять продукты моря, особенно кальмары. В воскресенье стою в очереди в кассу №34 (магазин «Момо» на станции метро «Могилевская») и вижу на стенде маленькие пакетики с рыбкой. И среди них «Кольца кальмара» солено-сушеные по цене 1 рубль 80 копеек за 18 граммов. Кальмаров в пакетике кот наплакал. Жменька. Несложно подсчитать, что 100 граммов стоят 10 рублей, а килограмм таких кальмаров – 100 рублей. Я просто обалдела от такой цены! Вот это бизнес! И все прозрачно, имеется даже адрес изготовителя: ООО «Треваллитрейд», 223025 Республика Беларусь, Минская область, Минский район, д.Новое Поле.

**Анна ЗАЙЦЕВА.**

О ТОМ, ЧТО ВОЛНУЕТ

# Даже гроб с покойником нельзя спустить

Уважаемая редакция!

Хочу поделиться своими переживаниями и обеспокоенностью не только за свою жизнь, но и за жизнь всех жильцов нашего дома.

А сейчас небольшой экскурс в историю вопроса.

Наш одноподъездный 12-этажный дом по улице Волгоградской был сдан в эксплуатацию в 1988 году. Планировка его своеобразная. Путями эвакуации являются переходные балконы на каждом этаже с выходом на глухую изолированную лестницу. Сразу хочу заметить, что балконы и лестница шириной всего около метра. В доме предусмотрены два лифта: пассажирский и грузопассажирский, в народе прозванный «гробовик». Однако вместо грузопассажирского был установлен пассажирский грузоподъемностью 500 килограммов. Шахта для него – соответствующих размеров. И теперь у нас проблемы с транспортировкой мебели, из-за узких балконов и лестницы практически невозможно спустить гроб с покойником. Ритуальные службы не хотят оказывать услуги в этом плане.

Мы, жильцы дома, узнав о предстоящей замене лифтов, отслуживших срок эксплуатации, на протяжении всего прошлого года вели переписку с организацией ЖРЭУ, которая курировала этот вопрос, – просили установить грузопассажирский лифт вместо того, который когда-то был смонтирован.

Первоначальные ответы были ни о чем, просто носили характер отписки. В одном из них было сказано, что размер шахты слишком мал для установки грузопассажирского лифта. В ответном письме я уточнил, что размеры шахты соответствуют нормам. Тогда чиновники ЖРЭУ сослались на то, что железобетонная плита перекрытия якобы бракованная и не выдержит нагрузки. В таком случае возникает вопрос: как могли установить бракованную плиту, принимая во внимание, что лифт, тем более работающий в стесненных условиях, считается особо опасным механизмом? Думаю, такой информацией кое-кто должен был бы заинтересоваться еще на стадии строительства и при замене лифтов.

Как мне кажется, скорее всего, ЖРЭУ выбрало вариант с меньшими затратами финансов, ведь цена грузопассажирского лифта выше, чем малого пассажирского. Вот и придумали про бракованную плиту, малые размеры шахты. Подтверждением догадки об экономии финансов является тот факт, что после монтажа первого лифта три недели на объекте никто не работал. Как потом объяснили монтажники, перерыв был по причине отсутствия финансирования.

Вот как реагируют чиновники на обращения граждан.

В заключение хочется сказать, что установка бракованной плиты требует серьезного разбирательства во избежание несчастных случаев, тем более с летальным исходом. Монтаж и установка второго лифта, меньшего по вместимости, это вообще не выход из положения.

**Дмитрий Николаевич ОЛЬХОВИК.**
*Брест.*

УСМЕШКА МАСТАКА

# Знайшлі самагонны завод у лесе

У ходзе правядзення рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікі міліцыі Пружанскага РАУС, АМАП УУС і УІМ Свіслацкага РАУС у лясным масіве паблізу вёскі Гурчыны Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці знайшлі міні-завод па вытворчасці самагону.

Як адзначыў начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Пружанскага РАУС падпалкоўнік міліцыі Павел Сандрыгайла, падчас агляду супрацоўнікамі міліцыі выяўлена і знішчана 3660 літраў самагоннай брагі. Міні-завод канфіскаваны.



